


**Выпуск № 337** Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ

# АКАРАНЕННЕ І... РАЗМОВЫ

**Я чула, што ў газеце «Звязда» была надрукавана заметка, у якой расказвалася, як у чэрвені са зрэзанай галінкі яблыні (грушы, іншых пладовых культур) выгадаваць дрэўца. Тую галінку апрацоўваць нейкім саставам суткі і садзіць. Яна пускае карані. Я шмат разоў спрабавала знайсці тую заметку і не змагла...**

**Н. К. Чухлей,**
**вёска Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна.**

Мусім адразу супакоіць вас, Ніна Канстанцінаўна: такой заметкі не было. Гэта фантазія нашых чытачоў-садаводаў. На жаль, навука і практыка яшчэ не дасягнулі такіх вышынь, каб вось так проста гадаваць дрэўца. Зрэзаў, скажам, у Стоўбцах галінку добрага сорту, адвёз куды-небудзь далей, пасадзіў і здымай плады... Аб гэтым можна марыць і... гаварыць.

Але дыму без агню не бывае. Так і ў нашым выпадку. У раздзеле «Сядзіба» не адзін раз друкаваліся паведамленні-парады, як акараніць зялёныя чаранкі парэчкі, абляпіхі, ружы, некаторых іншых культур. Але не яблыні, грушы, вішні, слівы. Няма пакуль што такіх стымулятараў росту, каб прымусіць гэтыя галінкі даваць карані. Такія галінкі можна прышчапіць. Рабіць гэта вясною, калі дрэва «спіць». У час вегетацыі амаль адны няўдачы.

Якія ж неабходна стварыць умовы, каб чаранок абляпіхі ці ружы прыжыўся? Самае галоўнае — не даводзіць яго да абязводжвання. Далей наразаем з адзеравянелай часткі аловачкі-чаранкі. Яны з адным-двума лісцікамі. Ліст на трэць ці палову адрэзаць — будзе меншае выпарэнне вільгаці. У камлі пілкай з дробным зубам падрапаем кару. Гэта стымулюе коранеўтварэнне. Паставім у шклянку са слабым растворам попелу (сталовая лыжка на літр вады, настоена суткі, зліта з асадку). Зверху накрыем яшчэ адным слоікам ці цэлафанавым пакетам. Не трымаць на вельмі яркім святле (тым больш — на сонцы).


«Аловачкі» парэчак перад акараненнем.

Праз суткі ці двое чаранкі (чаранок) паставіць у спецыяльны порысты грунт. Можна выкарыстоўваць нават зямлю для расады. Толькі яе абясшкодзіць прапарваннем. Усе нашы пасадкі накрыць плёнкай. Павінен атрымацца міні-парнічок. Там цёпла і вельмі «мокра» (100-працэнтная вільготнасць). Палівць пакаёвай вадой. Зрэдку абдаваць і абрэзаныя палавінкі лісцікаў. Калі ўсё складваецца добра, праз месяц ці менш расліна пачынае сваё новае жыццё.

Парэчку можна акараняць на кусце. Для гэтага на галінку прыладжваем зямлю ў цэлафане. Сочым, каб яна ўвесь час была вільготная. Вядома, сама галінка ў месцы прыладжвання зямлі павінна быць падрапана.

Калі ў вас загінула карлікавае дрэўца яблыні, а знізу (амаль з зямлі, ніжэй прышчэпкі) пайшлі новыя парасткі, іх можна акараніць. Для гэтага прыгнуць да зямлі, прымацаваць рагаткамі, акучыць. Увесь час паліваць.

Найлепшы стымулятар росту раслін — гетараўксін. Знайсці яго няпроста. Дапамагае нікацінавая кіслата — некалькі кропель на літр вады. Садаводы з поспехам прымяняюць настоі попелу з бураксам (на літр вады лыжку прасеянага попелу і 1-2 г бураксу ці борнай кіслаты). Яшчэ падыходзіць сок алоэ, нават сок бульбы.

# НЕ ПРАГАДАЛІ!

У нашай пошце нямала пісьмаў, у якіх людзі дзякуюць за газету «Для вас» («Ураджайныя градкі»). Адной жанчыне падарылі выпуск № 16 «Сеем!». Брашура вельмі спадабалася: у час сяўбы выкарыстоўвала нашы рэкамендацыі. Прыслала пісьмо, каб набыць астатнія.

Па традыцыі ў канцы месяца аддзел «Сядзіба» выпускае чарговыя выданні. Адначасова з гэтым выпускам «Сядзібы» выходзяць і «Ураджайныя градкі» № 20. Яны прысвечаны хваробам і шкоднікам садовых і агародных культур. Газета-брашура неадкладна паступае да падпісчыкаў, яе можна набыць таксама ў кіёсках «Саюздруку» гарадоў і раённых цэнтраў. Толькі абавязкова пытаць выданне ў кіяскёраў, бо яны звычайна так «схаваюць», што і самі знайсці не могуць.

Некалькі дзён засталося на рэалізацыю кніжачкі «Дары саду» (№19). Паспяшайцеся да тых жа кіёскаў.

Усе папярэднія выпускі — пра сяўбу і нітраты, угнаенні, насенняводства, як атрымаць тону памідораў з соткі, замежныя тэхналогіі — можна заказаць у рэдакцыі (выпускі №№ 15—19). Хто жадае мець іх у сваёй бібліятэчцы, з любога паштовага аддзялення пералічвае грошы на разліковы рахунак газеты «Звязда» ў АКБ «Белбізнесбанк». Цана аднаго экземпляра — 4000 руб., двух і болей — па 3,5 тысячы рублёў. Розніца выклікана коштам заказных адпраўленняў.

На пераводзе ўкажыце: адрас рэдакцыі з індэксам **(220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10А, рэдакцыя газеты «Звязда»)** і паметку аб пералічэнні грошай **(наш разліковы рахунак 3012210270016, код 739 у АКБ «Белбізнесбанк»)**, укажыце, якія брашуры жадаеце набыць, іх нумары. Як толькі атрымаем пераводы, вам будуць высланы выданні. Не забудзьце разборліва напісаць свой адрас з індэксам, прозвішча, імя і імя па бацьку.

Дзе можна набыць нашы выданні? У абласцях гэтага зрабіць нельга. У Мінску брашуркі для дачнікаў ёсць у магазінах «Насенне», «Сельгаскніга» (прасп. Скарыны), «Аграхімік» (вул. Чырваназорная, 8). Цэны тут самыя нізкія — адзін экземпляр каштуе 3000 руб.

## ДАПАМОГУЦЬ «АКСІХОМ-80» І «ТАПАЗ»

У сырое надвор'е вельмі актывізаваліся хваробы грыбковага паходжання. Дачнікі пайшлі ў крамы. Мінскі магазін «Аграхімік», які абслугоўвае «Белсельгасхімія», прапануе некалькі фунгіцыдаў. Адзін з іх — «аксіхом-80». Гэта таблеткі (можа быць і парашок). На 10 літраў вады патрэбны дзве таблеткі, ці 20 г парашку. Добра развесці, прафільтраваць. Працаваць са свежым растворам. Раўнамерна намочваць усё лісце. Дзейнічае супраць фітафтарозу, макраспарозу, мучністай расы. Апрацоўваць да трох разоў і не пазней чым за 20 дзён да збору ўраджаю.

Супраць мучністай расы і ржы дзейнічае яшчэ адзін фунгіцыд — «тапаз», выраблены ў Расіі з дапамогай швейцарскай фірмы «Сіба». Ампулу развесці ў 8 ці 10 літрах вады. Для парэчак і агрэсту (мучністая раса) браць максімальную колькасць вады — 10 літраў, для агуркоў закрытага і адкрытага грунту — 8 літраў. Прэпарат малатаксічны для чалавека і жывёл. Усё ж не карыстацца посудам, які пасля будзе прыменены ў хатніх умовах. Парэчкі і агрэст апрацоўваць да чатырох разоў, агуркі — тры разы. Апошняя апрацоўка — за 20—30 дзён да збору ўраджаю.

У час апрацоўкі раслін на тварах людзей павінны быць марлевыя павязкі. Калі растворы трапілі на адкрытыя ўчасткі скуры, абавязкова прамыць цёплай вадой з мылам. Вядома, у час работы не курыць, не есці.

# УНІВЕРСАЛЬНАЯ АКТЫНІДЫЯ

На пачатку дзевяностых гадоў вельмі падняўся аўтарытэт актынідыі. Як і абляпіха, гэта расліна прыйшла з Далёкага Усходу. Там яна ўецца па дрэвах і кустах, утвараючы цяжкапераадольныя «джунглі». Плады даюць сарты «каламікта» і «аргута». Культура двухдомная. Для апылення трэба высаджваць мужчынскія экземпляры.

Ягады зеленавата-белаватага колеру, выцягнутыя, як цыліндрыкі, вага іх 2—5 г, вельмі пахучыя (бы ананасы). Найбольшая каштоўнасць — вітамін С.



Куст-ліяна пярэсты. Лісце тоненькае і рознай афарбоўкі. Перад цвіценнем на верхавінцы з'яўляюцца белыя плямы. Яны павялічваюцца і могуць ахапіць увесь лісточак. Затым колер мяняецца на чырвона-малінавы. Гэтыя змены найбольш бачныя на мужчынскіх экземплярах — быцам прываблівають жаночыя.

Культура вельмі прызвычаена да розных глебаў. Перад пасадкай абавязковыя ямы-кубы 50х50 ці 60х60 см. На дне — дрэнаж, далей — перагнойная зямля ўперамешку з угнаеннямі. На яму ўнесці: вядро перапрэлага гною, да 150 г суперфасфату і амаль столькі ж калійных угнаенняў. Азотных — толькі след: да 25 г салетры ці сульфату амонію. Усе арганічныя і мінеральныя ўгнаенні старанна перамяшаць з глебай. Адлегласць адной расліны ад другой — да 1,5—2 м. На тры жаночыя кусты — адзін мужчынскі.

Калі кусты-ліяны выцягнуцца, абавязковыя надзейныя апоры. Глебу пад раслінамі рыхліць, мульчыраваць торфам, гноем, пілавіннем. Да каранёвай шыйкі падсыпаць зямлю двойчы за сезон — вясною і летам. Расліна можа «паднімацца», агаляючы карані. На дарослы экземпляр уносіць: па 15 г суперфасфату і калію і да 20 г салетры. Усё — на адзін квадратны метр. Выдатна дзейнічае попел — паўвядра на дарослае дрэва. Уносіць у два прыёмы — большую дозу вясною, астатнюю — летам.

Увогуле на дарослы куст трэба даваць да 400—450 г азотных, 140 г фасфатных і калійных, 80 г магніевых угнаенняў.

Расліну (асабліва ў маладым узросце) любяць «пашчыпаць» каты. Часта яе накрываюць сеткамі. Хваробамі актынідыя паражаецца вельмі нязначна.

# ЦІХАЯ ІНДЫЧКА З ВЫСОКАЙ ПРЫВАГАЙ

Апошнім часам заўважана цікавасць да розных птушак. На дачах растуць куры, гусі, качкі. Вядома, і індычкі. Яшчэ б, за лета кожная, як кажуць, галава набывае вагу да шасці—васьмі кілаграмаў! Мяса для сям'і на два тыдні.

У адрозненне ад іншых свойскіх птушак, індычка патрабуе прасторнага памяшкання з вокнамі і надзейнай вентыляцыяй (на галаву — не менш аднаго кв. метра). Птушка вельмі пакутуе ад скразнякоў, рэзкіх перападаў тэмператур. Падлога — абавязкова сухая. Гной убіраць як мага часцей — раз у два-тры дні, памяшканне засцілаць амаль сухой тарфакрошкай. Надзвычай непажаданыя вуглекіслата і аміяк. Яны могуць атручваць «жыхароў».

У хлеўчуку карытцаў для кармлення столькі, каб ніхто не ваяваў за сваё месца. Прасторная і паілка, дзе заўжды свежая вада (мяняць двойчы на суткі).

Самае цёплае і спакойнае месца адводзіцца для седала. Даўжыня яго адвольная. Вышыня — 45—50 см ад падлогі. Астатняе абсталяванне як і для курэй. Толькі больш трывалае, бо самі птушкі цяжэйшыя. Вельмі дарэчы будуць пад седаламі выцяжныя скрынкі — спатрэбіцца менш часу для ўборкі. Выняў такое прыстасаванне і аднёс яго змесціва ў адведзенае месца.

У халодны перыяд (часта і вясною) індычкі пакутуюць ад авітамінозу. Таму як мага раней выпускаць на волю. І наогул выгул на працягу ўсяго дня. Птушка знойдзе ўсё неабходнае. А калі гэта немагчыма, то даваць зялёную траву, крапіву, лісце капусты — усё, ад чаго індычка не адварочваецца.

У любым выпадку абавязковыя так званыя «санітарныя дні». Некалькі птушак ці ўвесь статак перавесці ў іншае месца. У памяшканні навесці генеральны парадак. Літаральна ўсё — дошкі на седалах, вокны, сцены, падлогу, розны інвентар мыюць гарачай вадой з каўстычнай содай. Можна пабяліць ці абнавіць пабелку. Абавязкова замяніць падсцілку. На сценах, ля седалаў і ў месцы, дзе нясуцца індычкі, прывязаць палын — будзе менш паразітаў. Каб птушкі праводзілі індывідуальную штодзённую санапрацоўку, ставяць скрынкі з пяском і попелам, рознай пацярухай.

# БАЛАДА ПРА СЛАЎНЫХ РЫЦАРАЎ «КАМЭЛОТА»



***Гэта гісторыя пачалася вельмі даўно, калі на зямлі будавалі прыгожыя замкі, а іх насялялі высакародныя гаспадары. Кожны замак меў сваю рыцарскую дружыну, а ў кожнага рыцара была свая дама сэрца. Так, былі і тыя, хто пакідаў спакойнае жыццё і вандраваў па свеце, робячы добрыя справы ў гонар сваёй дамы сэрца. Каб схавацца ад непагадзі ды і проста адпачыць ад подзвігаў, рыцары прыспешвалі сваіх коней да камэлота — палаца, у якім чакалі высакародных вандроўнікаў.***

Дык вось, у адзін з такіх замкаў запрашаем і мы. Так, былі рыцарскія камэлоты ў старажытнай Літве, як тады называўся наш край. І аднойчы пад адным дахам сабраліся чатыры маладыя хлапцы: Зміцро Сідаровіч, Ігар Войніч, Алесь Кішкін, Анатоль Басай.

Выпадкова ці не яны сышліся разам — якая розніца? Проста іх звяла разам дарога. А каб адна з дарог, што праляглі па Беларусі не здавалася надта доўгай і цяжкай, сама сабою прыйшла ў галаву песня:

*Карчомка за спіной і два кілішкі ў ёй*
*Нядужа танныя, нядужа танныя.*
*Мы звесялелі ўраз і гэтак добра,*
*Што ёсць у нас Краіна Талераў,*
*Краіна Талераў, Краіна Талераў.*

І вырашылі яны далей вандраваць разам па амаль казачнай «Краіне Талераў». Краіна гэта зусім рэальная, нават для тых, хто не надта любіць падарожнічаць, але сумуе па нармальных адносінах паміж людзьмі. Дастаткова ўзяць першы альбом, запісаны гуртом «Камэлот», які так і называецца: «У Краіне Талераў».

І ўсё адразу мяняецца.

Ажывае Беларусь. Яна ізноў такая, як у старажытнасці. У ёй жывуць людзі, для якіх асабісты дабрабыт вызначаецца духам свабоды, славаю, багаццем сваёй зямлі. Гэта той час, калі дзяржаву гатовы былі бараніць па першаму поклічу рыцарскія атрады.

*Там дзе змога — перамога,*
*Там дзе песня — шанцу многа,*
*Ды спакой мудрэй за бойку,*
*Грай, дудар, тут дадам!*

Кірунак творчасці этна-фолькгурта — рыцарскія і жаўнерскія песні, песні беларускіх вагантаў і менестрэляў, музыка еўрапейскага сярэднявечча. А пачынаецца ён са спробы разгледзець беларускую культуру ў агульнаеўрапейскім кантэксце, прадставіць яе не толькі як сялянскую, але і як культуру беларускіх гарадоў мінулага. Стыль — сінтэз акустычнага рока, лютневай гатычнай і барочнай музыкі, фальклору Вялікага княства Літоўскага, а таксама краін Паўночнай і Заходняй Еўропы.

Ды ўсе гэтыя мудрагелістыя словы — толькі для спецыялістаў. А любы чалавек можа адкрыць у «Камэлоце» проста прыемныя для душы песні. Прытым на любы выпадак жыцця: вам не падабаецца недасканаласць навокал — паслухайце новы альбом; не можаце мірыцца з жорсткасцю прыдуманых людзьмі законаў — шукайце паратунку ў «Краіне Талераў»; не ведаеце, як прызнацца ў каханні — камэлотаўскія песні вам дапамогуць. А калі вы проста сумуеце па мілагучнай, узнёслай беларускай музыцы — вам проста не жыць без гэтага альбома. Тым больш, што не так часта апошнім часам нашы артысты балуюць песнямі на роднай мове. Дарэчы, аўтарка гэтых радкоў ўсе непрыемнасці мінулага дня ўвечары гасіць музыкай гурта. Проста падабаецца, і ўсё.

Каму з чатырох нашых сучаснікаў прыйшло ў галаву першаму звярнуцца да рыцарскіх песень, цяпер высвятляць не мае сэнсу. Вядома толькі, што пачынаўся гурт «Камэлот» у 1991 годзе з доўгіх размоў паміж Зміцерам Сідаровічам і Алесем Кішкіным, якія ўжо даўно сябравалі, але не думалі пра агульную справу. Аднойчы барда Сідаровіча запрасілі на адкрыццё беларускага гуманітарнага ліцэя. Нецікава было выступаць толькі пад гітару, і Змітро прапанаваў далучыцца Кішкіну, ды паклікаў У.Бярберава са сваёй дудой. З канцэрта іх ледзь не вынеслі на руках — вельмі ж ужо ўсім спадабалася. Але гэта было яшчэ далёка не тое... Спачатку была прапанова назваць гурт «Дубовыя лютні» — бо гралі на вельмі дрэнных гітарах, зробленых на Барысаўскай мэблевай фабрыцы. Прыходзілі яшчэ людзі ў гурт — і сыходзілі. Удзельнікі праекта давалі аб'явы: шукаем кларнетыста, габаіста і гэтак далей. Цяжка зараз знайсці музыкаў, якія былі б згодны працаваць толькі дзеля ідэі. Неяк Змітро ў падземным пераходзе пачуў флейту. «Добра граеш,»—падышоў да хлапца, расказаў яму пра праект «Камэлота». Той зацікавіўся. А потым паехаў у Германію — павучыцца. Вернецца не вернецца, хто яго ведае?.. Неўзабаве дайшлі да «Камэлота» у цяперашнім яго выглядзе.

— Музыка, як вядома, — касмапалітычнае мастацтва, — тлумачыць выбраны накірунак Змітро Сідаровіч. — Але ёсць розныя гурты, якія абапіраюцца на тое сваё, што існуе ў кожнай зямлі. Мы не імкнёмся заваёўваць свет. У рэшце рэшт, навошта увогуле заваёўваць? Атрымалася так, што змест альбома мае дачыненне да вайсковай гісторыі, але мы не заклікаем да ваяўнічасці. Проста, гісторыя ёсць гісторыя, мы ж сродкамі музыкі спрабуем мадэліраваць пэўнае стаўленне да яе, як Караткевіч гэта рабіў сродкамі літаратуры.

Гісторыя працягваецца. Хіба ў нашым жыцці меней спраў для сапраўдных рыцараў? «Сёння жыццё аздабляе жолуд горкі, як дым»,— сцвярджае гурт у сваёй песні. З прагорклым паветрам «камэлотаўцы» змагаюцца сваімі сродкамі. Яны пішуць песні. І калі сказаць, што тут сабраліся кампазітары, а не выканаўцы, гітарысты, флейтысты ці аранжыроўшчыкі, — будзе праўда. Пры тым не дзеля таго яны прыйшлі ў творчасць, каб паездзіць па канцэртах ды стаць вядомымі. Кожны з іх апроч музыкі займаецца сваімі справамі, у кожнага ёсць работа, каб забяспечваць сям'ю, а гэта таксама рыцарства ў нашы дні. Гурт аматарскі, прафесіянальных музыкаў тут няма ў сэнсе «жыцця з музыкі». Ды і ўвогуле зараз на Беларусі творчасць не прыносіць прыбытку. У вольны час яны збіраюцца, запісваюць думкі. Калі нехта вядзе дзённік на паперы, то яны занатоўваюць уражанні на магнітнай стужцы. Так паступова накопліваецца матэрыял на альбом.

Праўда, апошнім часам ім збірацца даводзіцца не надта часта. Так многа ветракоў параскідана на Беларусі, з якімі даводзіцца змагацца нам усім штодня. Пакуль з кожным разбярэшся, каб пазбавіць сваіх блізкіх ад залішніх клопатаў пра хлеб надзённы, — дзень ставіць апошнюю кропку. Прафесіянальнае рыцарства адбірае вельмі шмат часу. Толькі дама сэрца пакорліва чакае, калі ўсё ж такі загучыць у яе гонар вячэрняя серэнада:

*Недалёка да світання,*
*Толькі не заснуць цяпер.*
*Ах, прадмет маіх ўздыханняў,*
*Дай дабранач ты майму сэрцу!*

Дамы сэрцаў упэўнены, што іх абраннікі — самыя таленавітыя. Часцей за ўсё ім і прыходзіцца быць самымі суровымі суддзямі. І самымі ўдзячнымі слухачамі. Хто яшчэ можа пачуць жывы «Камэлот»?

— Раней мы таксама выступалі і на канцэртах, — працягвае размову Змітро Сідаровіч. — Іншыя гурты так і існуюць. Ім цікава бачыць аддачу залы, пачуць воплескі, стаць вядомымі. Мы вырашылі, што гэта не тое, да чаго мы імкнёмся. І перайшлі ў разрад студыйных гуртоў. Гэта сусветная практыка, нічога заганнага тут няма, справа толькі ў тым, што ў рэшце рэшт атрымліваецца. Мы можам раз у год збірацца і запісваць нейкі праект. Інструменты — свае, усё што ёсць — прагучала. Можна яшчэ ўзяць на кухні некалькі місак-рандэльчыкаў, яшчэ штосці прыстасаваць, і ўжо нешта новае атрымаецца. Вядома, можа вялікая аўдыторыя нас і не ведае, затое ведае пэўнае кола людзей, якія пільна сочаць за навінкамі беларускай рок-музыкі. Мне нават падабаецца, што ёсць налёт андэграунднасці ў нашым існаванні, ёсць рамантыка.

«Камэлотаўская» рамантыка вельмі вытанчаная. Падабенства яе да рамантыкі колішняга пецярбургскага «Акварыума» Змітро Сідаровіч называе наканаванасцю лёсу. Падабенства гуртоў — выпадковае. У Пецярбургу была свая рок-тусоўка, тут — свая. А музыка заўсёды нараджаецца ў паветры, трэба толькі яе своечасова ўхапіць. Хто першы вынес яе на шырокую аўдыторыю — той і на кані. Тым больш, што сумуюць душы па рамантыцы.

— Падчас выступленняў на канцэртах, фестывалях мы сябе запісвалі, потым слухалі і дзівіліся: зусім не тое, што хацелася б чуць. Альбом, запісаны на студыі «Камэлот», — на 80 працэнтаў тое, што было задумана. І зараз музыка нікуды не падзелася, хоць трохі адсунулася на другі план з-за працы. Пісалі музыку да кінафільмаў. Будзеце глядзець мастацкі фільм «Шукальнікі скарбаў» І.Волах, ці дакументальны «Беларусь, лета 1991» У.Коласа, звярніце ўвагу на музычнае афармленне. Ёсць наш уклад у спектакль «Заложніца кахання» тэатра «Вольная сцэна». Ёсць музычны матэрыял яшчэ на адзін альбом. Можа нават зробім канцэртную праграму. Мы рухаемся. Марудна? Толькі на дрэнныя рэчы патрэбна мала часу і роздуму. Калі што ёсць добрае, то трэба яго ўдасканальваць. Бывае, што на гэта ідуць гады, але яны даюць свой плён. Мы яшчэ нагадаем пра сябе.

*Толькі не знікае,*
*Будзе ў сэрцы*
*Гэта песня.*
*Наша зорка зноў заззяе,*
*Наша сонца уваскрэсне.*

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# ЗНОЙДЗЕНЫ РАТУНАК АД МАШКАРЫ

**Як ужо паведамляла чытачам «Звязда», апошнім часам у шэрагу рэгіёнаў краіны (Брэсцкая, Гомельская і Мінская вобласці) адзначалася нашэсце машкары, ад якой найперш (нават з выпадкамі гібелі) цярпела буйная рагатая жывёла. Як стала вядома рэдакцыі, нягледзячы на тое, што ў першых двух абласцях сітуацыя пакрысе паляпшаецца, падстаў для заспакаення гэта не дае: паводле апошніх даных Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, толькі ў Мінскай вобласці ў трох найбольш пацярпеўшых раёнах — Барысаўскім, Лагойскім і Чэрвеньскім — «атакі» машкары зведалі больш як 20 гаспадарак. Агульная колькасць захварэўшых тут жывёл дасягнула: у грамадскім сектары — каля 10 тысяч галоў, у прыватным — больш за 3 тысячы. Ад укусаў машкары адзначаўся падзеж каля 100 кароў, цялушак, бычкоў, з якіх большая частка прыпадае на прыватны сектар. У гаспадарках, да таго ж, было вымушана забіта яшчэ 10 галоў жывёлы.**

**З просьбай даць каментарый сітуацыі, а таксама расказаць, што ж сабой уяўляе гэта машкара і як ад яе ратавацца, карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да начальніка проціэпізаатычнага і лячэбна-прафілактычнага ўпраўлення Мінсельгасхарчу Мікалая Савіцкага.**

— Нашэсце машкары (а дакладная навуковая яе назва — калумбацкая мошка) адзначалася на Беларусі і раней, праўда тады яна назіралася практычна толькі на Палессі — у паўднёвых раёнах Гомельскай (Жыткавіцкі, Петрыкаўскі) і Брэсцкай (Столінскі) абласцей, — гаворыць Мікалай Васільевіч. — «Сёлета ж машкара «паднялася» да больш паўночных раёнаў. Прычына тут толькі адна — гэтаму спрыяла цёплае і вільготнае надвор'е.

Як правіла, машкара нападае на буйную рагатую жывёлу на пашавых угоддзях раніцай ці вечарам, або нават у сонечны, але бязветраны поўдзень. У выніку ўкусаў у жывёлы ўзнікае сімулідатаксікоз — хвароба, звязаная з ацёкам лёгкіх, агульнай млявасцю. Дарэчы, па спосабу дзеяння яд машкары, які трапляе ў арганізм жывёлы са слінай, нагадвае пчаліны. Небяспеку выклікае таксама вялікае скапленне машкары ў паветры, паколькі яна можа літаральна «забіць» сваёй масай дыхальныя шляхі і жывёла рызыкуе загінуць ад удушша.

Як змагацца з гэтай навалай? Ёсць вельмі надзейны і эфектыўны прэпарат, які называецца «пратэідам». Дарэчы, яго вытворчасцю займаецца ледзь не адзіны ў свеце завод недзе ў Паўднёвай Афрыцы. Гэта экалагічна чыстае рэчыва, якое прыгатавана на аснове лекавых раслін. У нашай краіне яго можна набыць толькі ў адным месцы — у мінскай фірме «Кінс», якая завезла яго для патрэб гаспадарак і прыватных уладальнікаў рагуль у колькасці крыху больш за 2 тоны. Спосаб прымянення «пратэіду»: распыленне зменшанага з вадой рэчыва на жывёлу. Такая ахова надзейна засцерагае апрацаваны статак на працягу 42—56 дзён. Дарэчы, кошт гэтай працэдуры складае ўсяго 2,5 — 3,5 тыс. рублёў за адну ўмоўную галаву буйной рагатай жывёлы. Гэта акалічнасць спрыяе таму, што ўжо 15 пацярпеўшых ад нашэсця машкары раёнаў закупілі прэпарат. Напрыклад, у Лагойскім раёне людзі вёскамі збіраюць грошы і едуць у Мінск набываць Пратэід. Улічваючы такое становішча, «Звязда» змяшчае тэлефон фірмы «Кінс», дзе можна набыць гэтыя лекі: 68-54-34. (Зазначым, што прэпарата засталося прыкладна каля тоны, таму раім кіраўнікам гаспадарак паспяшацца з яго набыццём. Кошт адной каністры (5 літраў) складае 2 млн. 480 тыс. беларускіх рублёў. Адзін літр рэчыва разводзяць у 1 тоне вады, на адну жывёлу ідзе 5 літраў раствору.) Мае вялікае значэнне, што прэпарат бясшкодны для чалавека. Так, калі раніцай апрацаваць статак «пратэідам», то ўжо праз 6 гадзін малако можна ўжываць у ежу.

Дарэчы, фірма «Кінс» не спынілася на дасягнутым. Ёю ўжо завезены ў краіну спецыяльныя прыстасаванні «Флектрон» на вушы жывёл, прынцып дзеяння якіх нагадвае індывідуальную «міні-лабараторыю» па адпуджванню машкары. Калі жывёла пацее, прыстасаванне выдзяляе ахоўнае рэчыва, якое бярэ яе нібы ў абалонку. Тэрмін дзеяння такой біркі — 4 месяцы, кошт адной складае каля трох долараў ЗША.

Па словах Мікалая Савіцкага, прымяненне абодвух прэпаратаў значна павышае прадуктыўнасць статка, засцерагае яго ад захворванняў. Ён дзейнічае не толькі на калумбацкую мошку, але і на іншую машкару, якой хапае на працягу лета. Таму спецыялісты вельмі раяць кіраўнікам гаспадарак і прыватным уладальнікам рагуль набываць гэтыя лячэбныя прэпараты.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*КРЫМІНАЛ*

## ПОЛЬСКІ НАЁМНІК НАРВАЎСЯ НА БЕЛАРУСКІХ ПАГРАНІЧНІКАЎ

**Пры пераходзе польска-беларускага ўчастка дзяржаўнай граніцы беларускімі пагранічнікамі быў затрыманы 16-гадовы вучань ПТВ з польскага гарадка Гродзіск-Мазавецкі, які меў намер стаць наёмнікам у Чачні. Пагранвойскі нашай рэспублікі з няўдалым «салдатам удачы» доўга не цырымоніліся і выдалі яго польскім уладам.**

Не выключана, што на пошукі крывавай рамантыкі гора-наёмніка штурхнулі не столькі двойкі ў ПТВ, якіх у яго дастаткова, колькі прапаганда польскіх сродкаў масавай інфармацыі, у якіх дудаеўцы паказаны, як «высакародныя і бравыя барацьбіты з рускім імперыялізмам за нацыянальнае вызваленне».

Аднак мясцовыя законы строга забараняюць ваенную службу за межамі Айчыны, і ўлады памятаюць пра гэта. Пацвярджэнне таго — нядаўнія строгія прыгаворы, вынесеныя польскаму грамадзяніну, які служыў у замежным легіёне ў Францыі, і вярбоўшчыку з Кракава, які наймаў маладых людзей «на гарматнае мяса» ў Боснію.

Што ж датычыць 16-гадовага Яцака Б., то яму пакуль пашанцавала, і пад суд ён не трапіў, хоць бацькоўскай дзягі яму, відаць, не мінуць. Атрымліваючы наследніка з рук у рукі ад пагранічнікаў, бацька «чачэнскага вызваліцеля» пакляўся «выбіць з яго ўсю воінскую доблесць».

**БЕЛТА.**

## «ТЫ МЯНЕ НАРАДЗІЛА, Я ЦЯБЕ ЗАБ'Ю»

**Магіляўчане ў шоку: няўжо, як і ў Бабруйску, у горадзе з'явіўся людаед? Думаць так прымусіла паведамленне міліцыі аб тым, што пад лесвічнай пляцоўкай бальніцы аб'яднання «Хімвалакно», якая будуецца, вартаўнік знайшоў поліэтыленавы мяшок з тазавай часткай жанчыны.**

Маньяк, аднак, тут ні пры чым. Як устанавілі супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС (злачынства было раскрыта за тры дні), пасварыліся маці і дачка. Апошняя схапіла нож, нанесла старой некалькі ўдараў, а затым нерухомае цела раздзяліла на 17 частак, якія схавала ў розных месцах.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

## БЯРЫ АПАРАТУРУ, ЦЯГНІ ДАМОЎ

**Спрацаваўшая а палове дзевятай вечара ахоўная сігналізацыя ў цэнтральным універмагу Магілёва, здавалася, была несапраўднай: прыбыўшы нарад міліцыі пры вонкавым аглядзе вітрын і дзвярэй ніякіх пашкоджанняў не выявіў. Тым не менш, вырашылі выклікаць адміністрацыю магазіна. А ў 20.50 сігналізацыя спрацавала зноў.**

Універмаг быў адкрыты прыбыўшымі прадаўцамі і міліцыя пасля стараннага агляду будынка знайшла на першым паверсе ў аддзеле харчовых тавараў двух падлеткаў, 1980 і 1981 года нараджэння, якія схаваліся пад прылаўкам. Побач былі знойдзены тры напакаваныя імі сумкі з апаратурай і іншымі таварамі. Яшчэ адна сумка была знойдзена на другім паверсе каля секцыі імпартнай відэаапаратуры. Агульная сума складзеных у баулы рэчаў «пацягнула» прыкладна на 50 млн. рублёў.

Як высветлілася ў далейшым, падлеткі перад закрыццём універмага схаваліся ў будынку за рамонтнымі шчытамі. Калі пайшлі апошнія прадаўцы, падлеткі прыняліся напаўняць таварамі прынесеныя сумкі. Абодва затрыманы, вядзецца следства.

**Віктар КУПРЭЕЎ,**
**прэс-група УУС Магілёва.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, Серада, 29 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**10.20** «Кобра». Тэлесерыял.
**11.10** «Экамір-96». «Стварэнне» (Германія), «Эка-чалавек і...» (Польшча), «Кліпы па пытаннях аховы прыроды» (Польшча).
**11.20** «Апошняе лета дзяцінства». Трохсерыйны мастацкі фільм. 1-я серыя.
**12.25** «Зорная ростань».
**13.05** Відзьма-нявідзьма.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей.
**15.40** «Калейдаскоп сустрэч». Беларускія школьнікі ў Чэхіі.
**16.30** Педагагічны экран. Вынікі навучальнага года.
**17.00** Крэда.
**17.20** Госці ў хату. Дзеці — будучыня Зямлі.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Ты супакой мяне». Дак. фільм.
**18.10** «Чым багаты...» Вытворчае аб'яднанне «Гомсельмаш».
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** «Кобра». Тэлесерыял.
**19.55** «Хто гэта?» Тэлегульня.
**20.05** Супергол.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.10** «Закон Бэрка». 11-я серыя.
**23.10** Дзённік V Міжнароднага кінафестывалю «Залаты Віцязь».
**23.40** Каралеўскае паляванне.
**0.20** Навіны.

**ГРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.30** Навіны.
**8.15** «Сакрэт трапіканкі».
**9.05** Тэма.
**9.45** У свеце жывёл.
**10.30** «Адгадай мелодыю».
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Кантакт — дзелавое супрацоўніцтва краін Садружнасці».
**14.20** «Зорны каўчэг».
**14.35** «Прыгоды капітана Урунгеля».
**14.45** Кактус і К.
**14.55** До-мі-соль.
**15.10** Пакліч джungляў.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** Тэт-а-тэт.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю».
**19.00** «Няспешна і падрабязна...»
**19.45** «Добрай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** «Прэзідэнцкія выбары-96».
**20.55** Фільм Леаніда Філатава «Сукіны дзеці».
**22.45** Мужчына і жанчына.
**23.45** «Дуброўскі». 2-я серыя.
**0.50** Музычная праграма MTV.

**Канал «Расія»**

**6.45, 7.50, 14.50, 19.35, 21.10, 23.40** Выбары-96.
**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.25** Весткі.
**7.20** У гэты дзень...
**7.30** Дзелавая Расія.
**8.05** Імперыя гульняў. «На вадзе, на зямлі і ў паветры».
**9.00** Кліп-антракт. В. Лявонцьеў.
**9.10--10.20** «Санта-Барбара». **13.50** «Загнаныя паляўнічыя». Мультфільм.
**14.00** Іваноў, Пятроў, Сідараў.
**15.00** Кенгуру.
**15.15** Чароўны чамадан.
**15.30** Цуда ў рэшаце.
**15.45** Там-там навіны.
**16.20** Расія ў тварах.
**16.50** Кліп-антракт. Валерыя.
**16.55** «Дзяўчынка з заўтра». Серыял.
**17.20** Вас запрашае фірма «Палёт.
**17.30** Свая гульня.
**18.00** «Цёмная» для...
**18.15** Галасуй, ці прайграеш.
**18.25** Грамадзянская абарона.
**18.40** Рэпарцёр.
**19.50** «Санта-Барбара».
**20.40** Сам сабе рэжысёр.
**21.25** Надвор'е на заўтра.
**21.30** Футбол. Зборная Расіі — зборная Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў.
**23.50—0.03** Музыка ўсіх пакаленняў.

**НТБ**

**17.00** «Сямейка Флінстоун». 37-я серыя.
**17.30** «Багатая жанчына: быць лепш». 25-я серыя.
**18.00, 21.00, 23.00** «Сёння».
**18.35** Герой дня.
**19.00** Маст. фільм «Калі анёлы лятаюць» (ЗША).
**20.45** Доктар Вугал.
**21.35** Гадзіна серыяла. «Доктар Куін, жанчына-ўрач». 63-я серыя (ЗША).
**22.30** Часінка.
**23.20** На шляху да Атланты.
**23.50** Кафэ Абломаў.

**Санкт-Пецярбург**

**7.00** У эфіры «Муз-ТБ» (Масква).
**11.55, 14.55, 15.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55** Інфарм ТБ.
**12.05—12.55** «Першае каханне». Серыял.
**14.05** «Спякота ў Акапулька».
**14.45** «Вуокса». Тэлефільм.
**15.05** «Чорны кот». Музычны фільм.
**15.35** «Балада аб бягучай па хвалях». Тэлефільм.
**15.50** Стыль жыцця.
**16.05** «Калі Лота стала нябачнай». Тэлесерыял для дзяцей.
**16.30** «Філасофія па філу». Серыял для падлеткаў.
**16.55** Спартыўны агляд.
**17.05** Толькі без панікі.
**17.30, 18.00** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.35** Вялікі фестываль.
**19.10** «Першае каханне». Серыял.
**20.05** Выбіраем Прэзідэнта. Б. М. Ельцын.
**20.35** Тэлеслужба бяспекі.
**20.45** Што наша жыццё...
**21.00** Спорт.
**21.05** Выбіраем губернатара.
**22.10** «Спякота ў Акапулька».
**22.50** На ноч гледзячы.
**23.10** Муз-ТБ. Галасуй, а то прайграеш.



**Згубленае пасведчанне аб праве на льготы № 226334 серыі А, выдадзенае на імя Палівянок Аляксандра Іванавіча, лічыць несапраўдным.**

*Віншую дарагую сяброўку Людмілу Аляксандраўну Бруй з днём нараджэння. Жадаю здароўя на доўгія гады, шчасця ў жыцці, поспехаў у працы.*

**г. Стоўбцы.**


**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

Рэгістрацыйны нумар 1.

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 32-44-12, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-35-05, 68-27-83.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 99360. Індэкс 63.850.
Зак. № 2643.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12